СКАНДАЛ

# Ці знойдуць «падпальшчыкаў» літоўскай амбасады?

*6 лістапада каля 11 гадзін вечара двое невядомых кінулі дзве бутэлькі з запальнай сумессю на тэрыторыю літоўскай дыпмісіі ў Мінску. Толькі дзякуючы хуткай рэакцыі супрацоўнікаў службы бяспекі пасольства бутэлькі атрымалася затушыць. Шкоды амбасадзе прычынена не было.*




Беларускі бок адразу заявіў, што гэта не больш як хуліганскі ўчынак. *"Мы перакананы, што гэта злоснае хуліганства, і спадзяёмся, што праваахоўныя органы аператыўна правядуць расследаванне і вінаватыя будуць пакараныя ў адпаведнасці з заканадаўствам",* — заявіў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі **Андрэй Савіных**.

Партызанскім раённым аддзелам Следчага камітэта па Мінску распачата крымінальная справа па артыкуле "Хуліганства, здзейсненае групай асоб". Як заявілі ў Следчым камітэце, на расследаванне кінуты найбольш кваліфікаваныя спецыялісты.

Літоўскія палітыкі расцэньваюць гэты інцыдэнт як тэракт.

*— А што вам нагадвае такі ход падзей, калі вечарам на тэрыторыю амбасады кідаюць дзве бутэлькі з "кактэйлем Молатава"? Што гэта, калі не тэракт? —* заявіў міністр замежных спраў Літвы **Аўдронюс Ажубаліс.** — *Гэта тэрарыстычны выпад супраць літоўскай тэрыторыі... Я сказаў, што думаю як міністр замежных спраў, паколькі, калі кідаюць "кактэйль Молатава", інакш назваць немагчыма. Як гэта яшчэ можна назваць? Неспадзявана нехта пераблытаў? Пастукаліся не ў тыя дзверы? Не, гэта была абдуманая ясная акцыя. Гэта кінулі не дзесьці ў сярэдзіне вуліцы, шашы, а на тэрыторыю літоўскага пасольства ў Беларусі, якая ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй з'яўляецца нашай тэрыторыяй.*

*— Я думаю, калі ведаеш кантэкст, што гэта адбылося на стыку 6—7 лістапада, відаць, можна ўбачыць пэўны ідэалагічны кантэкст, калі ведаеш наша стаўленне да савецкага мінулага і яго ацэнкі. Я не выключыў бы здагадкі, што гэта справа рук радыкальных сіл,* — гэта ўжо рэакцыя на інцыдэнт у Мінску кіраўніка Камітэта па нацбяспецы і абароне літоўскага парламента **Арвідаса Анушаўскаса.**

У той жа час прэм'ер-міністр Літвы **Андрус Кубілюс** не стаў рабіць якіх-небудзь заяў. *"Я б не хацеў даваць нейкія ацэнкі, гэта выклікае ў нас заклапочанасць, але мы чакаем расследавання кампетэнтных органаў — як Літвы, так і Беларусі. Спадзяюся, што такія рэчы ў будучыні больш не паўторацца",* — сказаў Кубілюс журналістам.

У самой літоўскай амбасадзе ў Мінску ад якіх-небудзь каментарыяў адмаўляюцца, не даюць журналістам нават здымкі, зробленыя ў момант інцыдэнту. Кажуць, што пакуль вядзецца следства, супрацоўнікі не маюць права даваць публічныя каментарыі. Распавядаюць толькі, што супрацоўнікі службы бяспекі прагледзелі відэазапісы з камер назірання, аднак разабраць, хто кідае "кактэйлі Молатава" на тэрыторыю амбасады, складана. "Бачны толькі два цёмныя сілуэты, якія хутка рухаюцца. Немагчыма нават разабраць, мужчыны гэта ці жанчыны", — растлумачылі супрацоўнікі амбасады.

У Следчым камітэце таксама абмяжоўваюцца скупымі паведамленнямі: "Па выніках агляду месца здарэння канфіскаваны аб'екты, якія маюць значэнне па справе, па якіх прызначаны адпаведныя экспертызы, — аскепкі шкла, фрагменты бутэлек, узоры змесціва бутэлек". Пакуль ніхто не затрыманы.

## З ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

### Не першая атака

Падобны інцыдэнт не першы ў гісторыі сучаснай Беларусі. У жніўні 2010 года на тэрыторыю расійскай амбасады ў Мінску былі кінутыя дзве бутэлькі з гаручай вадкасцю. Адна з іх патрапіла ў прыпаркаваны на тэрыторыі амбасады аўтамабіль, які цалкам выгараў. На шчасце, абышлося без ахвяр. У ходзе расследавання беларускія праваахоўнікі дапыталі амаль 50 чалавек. У маі 2011 года за арганізацыю і ўдзел у гэтай акцыі былі асуджаны пяцёра актывістаў анархісцкага руху. Трое — Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч — атрымалі немалыя тэрміны зняволення: Аліневіч — 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Дзядок — 4,5 года пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму, Францкевіч — 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У судзе яны сцвярджалі, што да падпалу расійскай амбасады не маюць ніякага дачынення. Еўрапейскай супольнасцю ўсе трое прызнаны палітвязнямі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

*(Пачатак у №№145—146, 149—166, 169—170.)*

# Турма на Сікорскага



Бабруйская папраўчая калонія №2, куды Алеся Бяляцкага накіравалі адбываць пакаранне, месціцца на ўскраіне горада на вуліцы Сікорскага. Раней тут адбывалі пакаранне палітвязні, засуджаныя за ўдзел у Плошчы 19 снежня 2010 года, — Зміцер Дрозд, Сяргей Казакоў і Андрэй Пратасеня, а таксама Андрэй Кім, пакараны за ўдзел у мітынгу прадпрымальнікаў у 2008 годзе.

Сяргей Казакоў, згадваючы свой побыт у Бабруйскай турме, распавёў, што іншыя зняволеныя там ставіліся да палітычных у асноўным прыязна:

"Там ёсць добрая падтрымка, ёсць людзі, якія сядзелі разам з намі, вязнямі Плошчы, ёсць знаёмыя з іншымі былымі палітвязнямі Андрэем Бандарэнкам, Васілём Лявонавым, Андрэем Кімам... Там усе ў курсе, хто і за што сядзіць, і палітычных толькі падтрымліваюць. Ёсць шмат такіх, якія заспелі ўсіх палітычных вязняў, што сядзелі ў Бабруйску".

Паводле слоў Сяргея Казакова, адміністрацыя калоніі абыходзілася з палітычнымі стрымана. "Хіба начальнік калоніі дазваляў сабе ціск. Іншыя вязні за час адсідкі бачаць гэтага начальніка адзін-два разы, а мяне выклікалі два разы на тыдзень, і ўсе гутаркі з ім былі на падвышаных танах. Вядома, зверху ад адміністрацыі ідзе ўказанне прыціскаць нас, спыняць нейкія нашыя дзеянні, але так яўна гэта ішло толькі ад яго".

Сяргей Казакоў прызнаў, што харчаванне ў Бабруйскай калоніі кепскае. Пры ўзмоцненым рэжыме, як у Алеся Бяляцкага, вязню дазволены тры перадачы ці пасылкі па 30 кілаграмаў за год, два доўгія спатканні, падчас якіх таксама штонебудзь можна прынесці — да 30 кілаграмаў. Яшчэ даецца дазвол на тры кароткатэрміновыя спатканні, адно 15-хвіліннае тэлефанаванне сваякам раз на тыдзень. Ёсць магчымасць нешта купіць у турэмнай краме на суму ад адной да пяці базавых велічынь — ад 35 да 175 тысяч рублёў у месяц (4—20 долараў). Але прыдзірлівая адміністрацыя можа пазбавіць вязня ўсіх гэтых магчымасцяў. Калі вязень, як Бяляцкі, не прызнае сваёй віны, то ўмоўна-датэрміновае вызваленне ці замена рэжыму ўтрымання на мякчэйшы да яго фактычна не ўжываецца.

"Думаю, Алеся будуць накіроўваць на працу. Мяне са Зміцерам Драздом прымушалі цягаць бярвёны, скалочваць з дошак паддоны і збіваць з аўтамабільных пакрышак гуму. Праўда, сэнсу апошняй працы я так і не зразумеў, але гэта прымушаюць рабіць усіх", — кажа Сяргей Казакоў.

Раней зняволеных з Бабруйскай калоніі вазілі працаваць на мясцовы шынны камбінат, дзе для іх быў створаны адмысловы цэх. Цяпер камбінат адмовіўся ад паслуг зэкаў, і вязні працуюць у калоніі: вырабляюць спецвопратку, пагоны, шаўроны і розныя іншыя нашыўкі для сілавых структур. Але гэтым займаюцца не ўсе, а толькі тыя, хто адбывае вялікія тэрміны, бо навучанне займае шмат часу.

"Адназначна цяжка ў каранціне, два тыдні адразу пасля прыбыцця ў калонію. А далей — як пашанцуе, гледзячы ў які атрад трапіш", — распавядае Сяргей Казакоў.

Пасля трох тыдняў каранціну (адзін тыдзень дадала адміністрацыя) Бяляцкага накіравалі ў "швейны атрад" пад нумарам 14. У лісце Алесь паведаміў, што шыць яго не прымушаюць, а даручылі ўпакоўваць гатовую прадукцыю.

На працу Алесь ходзіць штодня, акрамя нядзелі, то ў першую, то ў другую змену:

"У асноўным вывярочваем і пакуем рабочыя рукавіцы, але часам і рабочыя робы, халаты, берэты і нават міліцэйскія пагоны. Праца фізічна не цяжкая, але „нятворчая"... Тут падобна да войска, толькі ў звальненні не выпускаюць", — напісаў Алесь пра ўмовы ў калоніі. У вольны час ён чытае кнігі, незалежную і афіцыйную прэсу, якую яму выпісаў сябар Сяргей Сыс.

Усяго ў Бабруйскай калоніі сядзяць каля тысячы асуджаных. Яна была адкрыта ў 1964 годзе. На тэрыторыі ёсць шыльда ў памяць гэтай падзеі. Апрача людзей, у калоніі "сядзяць" бабры, сімвал горада Бабруйска. Алесь налічыў тры фігуркі гэтых жывёл: адна ў каранціне ў турэмнай кепцы, другая — каля штаба (як напісаў Алесь — "мабыць, УДВ (умоўна-датэрміновага вызвалення) чакае", трэцяя — у прамысловай зоне сядзіць на газоне. Каля інтэрната, дзе адбываюць пакаранне пенсіянеры, растуць бярозы, пасаджаныя ў 1964-м, а яшчэ ёсць добра дагледжаныя клумбы з кветкамі і кустамі. У лісце, які я атрымаў ад Алеся, ён піша:

"Калі ты хоць раз быў на тэрыторыі савецкай ці беларускай вайсковай часці, пабудаванай у 70—80-я гады, то бачыў прыкладна тое, што зараз даводзіцца бачыць мне. Казармы тут па-цывільнаму называюць інтэрнатамі, над уваходам на наш паверх вісіць белая шыльдачка, на якой жоўтай фарбай напісана: "Общежитие отряда №14".

Жывём мы ў секцыях — асобных пакоях, дзе стаяць двухпавярховыя ложкі, ёсць стойка, на якой можна што-небудзь парэзаць (сала, хлеб), тумбачкі, шатня раскрытая, дзе нашая адзежа вісіць, паліца з кніжкамі. На вокнах не краты, а фіранкі з цюлю. А як выходзіш з секцыі — агульны калідор, у канцы — умывальнік і туалет. Тут жа пакой з лаўкамі і тэлевізарам. Закратаваныя толькі два акны — кабінет начальніка атрада і так званая "кашарка", дзе стаяць нашы торбы-кешары (сумкі з прыватнымі рэчамі. — **В.К.**). Там жа стаіць лядоўня. Казарма наша набліжаецца, я б сказаў, да рабочага інтэрната. У пакоях не паляць.

А вось як выходзіш з пад'езда, то тут прастора паўз дом на ўсю ягоную даўжыню і шырынёй метраў восем абгароджаная жалезным плотам з форткай. Гэта так званая "лакалка" — тэрыторыя атрада, дзе стаяць драўляныя лаўкі, ёсць сушылка вопраткі пад дахам і турнік. Тут ты можаш пазаймацца фізкультурай, выпіць кавы на свежым паветры або пагуляць у даміно, нарды, шахматы ці "мандавошку". Я тут адціскаюся, падцягваюся і хаджу, у гульні не гуляю, не люблю.

І такіх будынкаў-казармаў шмат. А ёсць яшчэ будынкі лазні, сталоўкі, штаба, каранціна, клуба, ёсць яшчэ будынак, дзе КБА (камбінат бытавога абслугоўвання. — **В.К.**) і бібліятэка. І ёсць так званая "промка", прамысловая зона, куды мы ходзім працаваць. Там ужо ўсе ходзяць шыхтом, проста так, самавольна ад будынка да будынка не паходзіш. У сталоўку ходзім строем, а праверкі тройчы на дзень праходзяць у "лакалцы".

Калонію ў параўнанні з турмой зняволеныя ўспрымаюць як палёгку. Тым, хто служыў у войску, калонія і сапраўды нагадвае армейскія ўмовы. Тут, хоць і ў няволі, але можна жыць, дыхаць свежым паветрам, не адчуваць, што ты — у камеры, душнай і перанаселенай. Турма ў параўнанні з калоніяй — няспынная пакута і выпрабаванне".

8 чэрвеня Алесь напісаў мне ў лісце з Бабруйскай калоніі:

"Учора я атрымаў трэцяе спагнанне за год. Першае было яшчэ ў каранціне — за нестатутны абутак. Вынеслі мне яго за дзень, як перавялі ў атрад, 21 сакавіка. Другое я атрымаў за дзень перад спатканнем з жонкай, 16 мая, за тое, што ў швачным цэху знаходзіўся без апазнавальнай шыльды-бэджа. А трэцяе за тое, што 2 чэрвеня заснуў у секцыі перад абедам. У выніку за апошняе парушэнне пазбаўлены доўгатэрміновага наступнага спаткання, якое прадугледжана Крымінальна-выканаўчым кодэксам.

Таксама з наступнага месяца я буду абмежаваны ў закупах у лаўцы — да 100 тысяч рублёў. А зараз было 500 тысяч. І хутчэй за ўсё, хоць пра гэта рана яшчэ казаць, бо няма тэксту амністыі, але хутчэй за ўсё як „злоснага парушальніка" амністыя мяне не будзе датычыцца.

Застаецца толькі дадаць, што мае „абавязацельствы" выконваць Крымінальна-выканаўчы кодэкс і падпарадкоўвацца Правілам унутранага распарадку пакуль што яшчэ не зацверджаны. Таму, як тут гавораць на мясцовым слэнгу, я зараз "без папер".

Апрача таго, Крымінальна-выканаўчым кодэксам прадугледжана добраахвотнае ўступленне зняволеных у СА (самадзейнае аб'яднанне). Дык вось, улічваючы гэтую добраахвотнасць, я туды яшчэ не ўступіў, бо я і так сябра многіх арганізацый і аб'яднанняў, у тым ліку БАЖ, Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы і Беларускага ПЭН-цэнтра, так што СА для мяне было б ужо занадта".

ВМЕСТО РЕЦЕНЗИИ

# Кто угадает будущее Беларуси?

*Литературно-политическая утопия стала предметом оживленного обсуждения в интернете*

Итак, на днях в интернете появился роман некоего Антона Дыбова "Prezident L.". Действие якобы происходит в Беларуси в 2041 году. 87-летний президент страны, правивший бессменно полвека, решает уйти на покой. В присутствии высшего чиновничества он объявляет о своем решении разделить Беларусь на три самостоятельных государства со столицами в Минске, Гродно и Могилеве, отдав их во владение трем своим сыновьям. Два старших сына горячо благодарят отца. Младший же и самый любимый вместе с благодарностью высказывает упреки старому президенту: мол, были во время его правления несправедливости, ущемлялись права граждан, людей без причины бросали в тюрьмы, а некоторые исчезли навсегда. Разгневанный старый вождь лишает сына отдельного государства. Предназначавшийся ему Минск теперь будет разделен на две части, которые отдаются старшим сыновьям. Граница в столице бывшей Беларуси проходит по проспекту Независимости. Сам старый правитель намерен жить поочередно у старших сыновей, кочуя по стране. Но очень скоро обнаруживается, что с ним не хотят считаться, не оказывают никакого почета, уменьшают его кортеж. Нарастают и конфликты между сыновьями.

Несложно догадаться, что утопия неизвестного Антона Дыбова вставлена в сюжет шекспировского "Короля Лира". Междуусобные страсти разгораются. Разумеется, не обошлось без активного участи КГБ. И, как это положено у Шекспира, громоздятся трупы. Гибнут все три сына старого вождя — один задушен, другой отравлен, третий повесился. И сам он, опустившийся, в лохмотьях, встречает смерть чуть ли не в сарае какого-то колхоза или совхоза...

Знаменательна реакция читателей на это произведение. Вот часть отзывов — без указания ников, нередко очень громоздких и затрудняющих восприятие текста, — взятых нами с сайта "Нашай Нівы".

*"Мяркуючы па стылі, то гэта Зімоўскі напісаў".*

*"Замова Мядзведзева (Пуцін у мастацтва не ходзіць), напісаў Пазьняк (у яго добрыя сувязі ў КДБ), пераклаў на рускую нехта з "літработнікаў" Глобуса".*

*"Потрясающее литературное произведение. Честное. Сильное. Мурашки по коже, когда читаешь... И еще показывает, насколько мы увязли тут... Спасибо".*

*"Занадта прамалінейна, бракуе метафар. І фактычна — залішняя рэклама..."*

*"Это не Зимовский. Зимовский — грамотная и стильная зараза, пишет фигуристо, а здесь написано средне, но задумано хорошо. Почти сценарий. Не удивило бы, если б дама писала".*

*"Больш вартая фантастыка пра беларускую будучыню ў аповесці "Імпэрскі сіндром" Кастуся Травеня, бо пісалася беларусам для беларусаў".*

*"Это не Зимовский. С его стилем совершенно ничего общего. Но спорна также идея о том, что это "инсайдер". Такое мышление присуще многим из моего поколения. Если предположить, что автору действительно 27—30 лет, то логика романа вполне укладывается в мышление этого поколения, которое, да, в своем большинстве — цинично".*

*"Поройтесь в интернете, есть книга "Белорусский апокалипсис" типа стёба-боевика про конец РБ".*

*"А я лічу, што гэта самы выдатны твор за апошнія гады. Пры гэтым не брыдкі, не прапагандысцкі, не занадта "сцёбны", а менавіта літаратурны і псіхалагічны. Усе героі маюць пачуцці, якія зразумелыя астатнім. Усе маюць жаданні, слабасці, мары. Прадбачанне выглядае верагодным. Трэба думаць, каб яно не ажыццявілася. Было бы цікава прачытаць такі раман пра аппазіцыйных лідараў таксама. "Макбет", напрыклад, быў бы добрым падмуркам".*

*"Мне кажется, это одно из тех произведений, по которому потомки будут судить о нашей эпохе... Ее посмертная маска".*

*"Калі гэты раман разыдзецца, то, мабыць, зробіць болей, каб улада змянілася, чым большасць палітыкаў".*

*"Эх, люди, что ж вам не живется... Все норовите "создать" какую-то фиговину, лишь бы она лила грязь на объект вашей ненависти. Низко пали! Это ж не "постмодернистский роман", это каляка-маляка несостоявшегося автора".*

Так кто же автор? Вот что он в самом конце романа сообщил о себе: *"Дыбов — это псевдоним. Если вы прочитали роман, то понимаете, почему я вынужден скрывать свою настоящую личность. Я белорус. Мне 27 лет. Последний год я проживаю в Москве, где учусь и работаю. Это мой первый роман, хотя и раньше я занимался литературой. Прошу прощения за ошибки, побоялся отдать текст профессиональному редактору. Но придет время, и все исправится. Мне кажется, что именно этот шекспировский классический сюжет идеально лег на белорусскую реальность. Он позволил рассказать о трагедии личности, трагедии власти и трагедии страны одновременно. Чтобы победить дракона, нужно его понять. Очевидно, что у этого романа нет шансов быть официально изданным в Беларуси, да и в России его издание может быть очень рискованным. Поэтому я устанавливаю для этого романа лицензию: "общественное достояние". Это значит, что любой человек может его использовать, распространять, издавать по своему усмотрению без согласия автора и без уплаты каких либо вознаграждений. Я буду благодарен, если кто-то переведет его на белорусский язык или другие языки. Я прошу, если текст понравился, рассказать о нем друзьям, передать знакомым, разместить в социальных сетях — это единственный путь донести его до читателя и сохранить для следующих поколений. Это роман-предсказание. Такое будущее проглядывает для Беларуси, и будет очень жалко, если оно сбудется".*

А вот что пишет на сайте Радыё Свабода известный белорусский журналист и прозаик, автор нашумевшего года два назад романа "Паранойя" Виктор Мартинович: "Справа ў тым, што "PREZIDENT L." гэта не смешна і не страшна. Гэта ніяк. Гэта не кранае ні як палітычны прагноз (бо нічога падобнага не можа быць у Беларусі ў 2041 годзе), ні як абстрактнае разважанне пра прыроду ўлады. Здаецца, аўтар памыліўся з шэкспіраўскім сюжэтам: сучасная Беларусь — гэта хутчэй "Макбет", чым "Кароль Лір"... Тэкст не мае літаратурнай амбіцыі, ён не працуе як палітычны прагноз, дык навошта было пісаць такую вялікую колькасць літар? Ці не для таго, каб "прэзідэнт Л.", прачытаўшы кароткае выкладанне тэксту ў штодзённым рапарце Службы бяспекі, якая маніторыць Сеціва, задаўся пытаннем: а ці трэба даводзіць да падзей, якія выкладзены ў тэксце (бо скончылася там усё вельмі дрэнна для пераемнікаў)? Ці, можа, лепей адмовіцца ад удзелу ў наступных выбарах і перадаць уладу каму-небудзь надзейнаму, з ліку людзей у пагонах? Калі аўтар ставіў паліттэхналагічныя мэты, усё выканана бліскуча. Чакайце... здаецца тут ужо зноў пачалася літаратура! Чалавек, які стварае раман дзеля таго, каб падштурхнуць кіраўніка дзяржавы задумацца аб будучым і сысці ў адстаўку, — гэта нават круцей за сюжэт, апісаны ў "Сцюдзёным выраі", дзе тэкст літаратурнага твора піша КДБ дзеля таго, каб завабіць у пастку вядомую палітычную ўцякачку. І як тут у чарговы раз — проста на падставе прыроды гэтага падазрэння — не прыйсці да высновы, што беларускае жыццё куды больш літаратурнае за літаратуру".

Мы не станем углубляться в анализ текста Антона Дыбова. Скажем только следующее. Конечно, о художественных достоинствах этой прозы говорить не приходится. Но почему она так взволновала читателей? Конечно, дело в теме. Режим, так долго задержавшийся в Беларуси, не может не порождать вопрос: когда же и как это закончится? В публицистике уже высказывалось немало предположений на этот счет. Но сама законсервированная ситуация не может не быть источником и для попыток откликнуться на проблему с использованием художественных средств. Текст Антона Дыбова иной раз выглядит как non-fiction, так густо насыщен он реалиями, похожими на белорусские. И это прежде всего волнует читателя, живущего среди них, узнающего знакомые типы и ситуации, одновременно и ждущего перемен и отчаявшегося увидеть их. Потому и привычные оценки жанра здесь не работают. Да, это низкий литературный уровень, но вместе с тем это и тот масскульт, который способен вторгаться в самые больные и важные сферы жизни. Той самой жизни, в которой ныне мощно смещены понятия добра и зла. В Беларуси уже многое за пределами нормы. Возможно, потому даже весьма критично оценивающий роман В.Мартинович вынужден признать, что "белорусская жизнь более литературная, нежели литература". То есть более богатая на сюжеты, в том числе самые страшные... Отсюда и природа нашего постмодернизма — малограмотного, прямолинейного, примитивного. Но ведь бьющего в цель! И, может быть, с большим успехом, чем иные томно-исповедальные и нарочито-литературные художественные изыски.

Читателю же все равно: ставил перед собой автор какие-то "политтехнологические цели" или нет. Его волнует эта жизнь, он ищет выхода, ответа на свои вопросы. И потому он будет жадно накидываться на любое чтение, в том числе и не претендующее на высокую художественность, но предлагающее ему заглянуть в его собственное ближайшее будущее.

**Алексей ЛУГОВОЙ.**

**P.S.** *Роман "Prezident L." вы можете прочитать в интернете по ссылке http://zhurnal.lib.ru/d/dybow_a_s/prezidentl.shtml*

ДЗІКУНСТВА!

## *За што забілі Юлію Ляшук?*

*Як паведамляла "Народная Воля", у Століне вынесены суровы прыгавор за забойства ў навагоднюю ноч 13-гадовай Юліі Ляшук з вёскі Лядзец. Але за што 17-гадовыя звярыаднавяскоўцы забілі дзяўчыну?*

Нагадаем, што справа слухалася ў закрытым рэжыме, і толькі зараз, пасля вынясення прысуду, робяцца вядомымі некаторыя абставіны гэтай трагедыі.

"Брэсцкая газета" паведамляе, што ўсё пачалося за тыдзень да Новага 2012 года. 17-гадовыя мясцовыя жыхары Валерый і Павел, выпіваючы, завялі размову пра тое, ці змаглі б забіць чалавека. "Слабо?" — задавалі пытанне адзін аднаму...

Пра гэтую размову хлопцы ўзгадалі ўжо на начной навагодняй дыскатэцы ў сельскім Доме культуры, і Валерый прапанаваў забіць мясцовую прыгажуню Юлію Ляшук. З-за таго, што два гады таму яна не захацела з ім сустракацца...

Такім чынам, дзяўчыну забілі проста нізашто.

Нагадаем, што пракурор прасіў суд прыгаварыць забойцаў дзяўчыны да 15 гадоў пазбаўлення волі. Суд даў аднаму злачынцу 15 гадоў, другому — 11.

ВІНШУЕМ!

# Мільянер ажаніўся

*Беларус Мікалай Побаль, які ў жніўні гэтага года выйграў мільён еўра на міжнародным покерным турніры ў Барселоне, сарваў яшчэ адзін "куш".*



"Усяго праз пяць дзён пасля сваёй перамогі Мікалай ажаніўся, — паведамляе SportGuide.ru. — Варта адзначыць, што ўрачыстасці прайшлі за кош нявесты Мікалая Побаля. Траціцца на сямейнае жыллё маладым таксама не давялося. З мілым рай, безумоўна, і ў шалашы, але дарагія апартаменты жонкі — больш адпаведны варыянт для мільянера... Да слова, кватэра маладых — гэта маёмасць, якую набыў былы грамадзянскі муж нявесты".

Сам Мікалай пацвердзіў "Народнай Волі" факт жаніцьбы, аднак распавядаць пра сваю другую палавіну не стаў. "Гэта ўсё асабістае, — коратка сказаў ён. — Але, магчыма, калі-небудзь і раскажу..."

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАГНОЗЫ

## *Іспанцы апусцілі БАТЭ на зямлю*

### *А немцы даюць за яго 22 мільёны 500 тысяч еўра*

*Ці ёсць у барысаўскага БАТЭ шанцы патрапіць у плэй-оф Лігі чэмпіёнаў па футболе?*

7 лістапада футбалісты барысаўскага БАТЭ зноў прайгралі іспанскай "Валенсіі". На гэты раз у гасцях — 2:4. Тым часам "Баварыя" перамагла "Ліль" — 6:1.

Не варта пераказваць развіццё падзей у матчы (хто хацеў — той пабачыў), зараз аматары прагнозаў выказваюць меркаванні, ці зможа БАТЭ ў выніку заняць 2-е месца ў групе і прайсці ў плэй-оф Лігі чэмпіёнаў.

Зараз становішча ў групе "F" такое: "Валенсія" і "Баварыя" — па 9 ачкоў, БАТЭ — 6, "Ліль" — 0.

20 лістапада згуляюць БАТЭ—"Ліль", "Валенсія"—"Баварыя". 5 снежня: "Ліль"—"Валенсія", "Баварыя"—БАТЭ.

Натуральна, у Мінску барысаўчанам трэба перамагчы французаў, і тады яшчэ застанецца тэарэтычны шанц заняць запаветнае другое месца. Зрэшты, калі БАТЭ будзе трэцяй камандай па выніках турніру, то ён таксама працягне барацьбу. Але ўжо ў Лізе Еўропы. Так што час пакажа...

Дарэчы, па ацэнцы аўтарытэтнага нямецкага рэсурсу Transfermarkt.de, сёння БАТЭ каштуе 22 мільёны 500 тысяч еўра. За год гэты кошт вырас больш як у два разы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**11 ЛІСТАПАДА — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПОЛЬШЧЫ**


Сённяшняя Варшава.

# Тры маніфестацыі

*У Варшаве ў Дзень незалежнасці пройдуць тры буйныя маніфестацыі.*

Сёлета ўпершыню плануецца марш “Разам за незалежную”, адным з арганізатараў якога выступае Канцылярыя прэзідэнта. Прэзідэнт Браніслаў Камароўскі ўскладзе кветкі ля помнікаў людзям, якія спрычыніліся да вяртання Польшчы незалежнасці: маршала Юзэфа Пілсудскага, кардынала Стэфана Вышынскага, Вінцэнта Вітаса, Стэфана Равецкага, Ігнацыя Яна Падэрэўскага і Рамана Дмоўскага.

Паралельна па вуліцах Варшавы пройдуць “Марш Незалежнасці” і “Антыфашысцкая маніфестацыя”.

## *Каха Каладзэ — футбаліст і энергетык*

Вядомы грузінскі футбаліст, які гуляў за кіеўскае “Дынама” і “Мілан”, нечакана для ўсіх атрымаў пасаду міністра энергетыкі ў новым урадзе Іванішвілі. Каха, які ішоў на выбары ў топе партыйнага спісу блока “Грузінская мара”, меўся і так нешта атрымаць падчас раздачы міністэрскіх партфеляў. Хадзілі чуткі, што яму дастанецца Міністэрства спорту, аднак у апошні момант Іванішвілі вырашыў, што Каладзэ зможа рэалізаваць сябе менавіта на пасадзе міністра энергетыкі. Казаць пра якую-небудзь кампетэнтнасць былога абаронцы “Мілана” ў галіне энергетыкі не даводзіцца. Па адукацыі ён гісторык, скончыў гістфак Тбіліскага дзяржуніверсітэта, з 11 гадоў гуляў у футбол і завяршыў кар’еру спартсмена толькі ў мінулым годзе. Першае, што зрабіў новы міністр, — заявіў, што збіраецца прывесці ў міністэрства сваю каманду. З вуснаў былога футбаліста такое абяцанне гучыць двухсэнсоўна.

У прынцыпе, выбар на карысць Каладзэ адпавядае агульнаму іміджу ўрадавай палітыкі Іванішвілі. Ва ўрадавай праграме, у якой распісаны мэты і задачы новых улад, няма ніводнай даты, ніводнай лічбы, нават указання прыблізнага перыяду выканання той ці іншай рэформы. Першыя крокі паказалі супярэчлівасць пазіцый суб’ектаў кааліцыі. У выніку захаваўся саакашвілеўскі статус-кво ў шматлікіх галінах, напрыклад, у абхазскім пытанні.

Між тым у самой краіне хутка нарастае сацыяльная і крымінальная напружанасць. Пакуль крэдыт даверу да новага рэжыму трымаецца на абяцанні прэм’ера ўзняць пенсіі і давесці мінімальны заробак да пражытачнага ўзроўню. Праўда, зрабіць гэта ён здольны выключна за кошт асабістых запасаў, і не факт, што іх надоўга хопіць.

Сын другога футбаліста — Давіда Кіпіяні — Ліван Кіпіяні ўзначаліў Міністэрства па справах спорту і моладзі.

## *Цела Ясіра Арафата будзе эксгумавана*

*Эксгумацыю правядуць французскія і швейцарскія судмедэксперты.*

Эксгумацыю памерлага ў лістападзе 2004 года лідара Палесцінскай аўтаноміі плануюць правесці 26 лістапада. Мэта — устанавіць прычыну смерці Арафата.

Легендарны змагар за свабоду Палесціны Ясір Арафат памёр пасля працяглай хваробы ў адным з французскіх ваенных шпіталяў. Тады прычына смерці не была ўстаноўлена. У ліпені бягучага года ў выніку спецыяльных даследаванняў на вопратцы Арафата былі выкрыты сляды радыяцыйнага матэрыялу — палоній-210. Месяц таму ўлады Палесцінскай аўтаноміі звярнуліся з просьбай да швейцарскіх навукоўцаў даследаваць парэшткі легендарнага палесцінца.


Індыйскія аўтарыкшы абедаюць у забягалаўцы ў цэнтры Нью-Дэлі.

**СОБЫТИЯ**

# Смертельная проблема Китая

*В Пекине проходит 18-й съезд Коммунистической партии Китая, который должен утвердить партийное руководство и новый состав правительства КНР.*

Обращаясь к более чем 2000 делегатам, председатель КНР Ху Цзиньтао выступил с серьезным предупреждением по поводу коррупции. По его словам, эта проблема *“может оказаться для партии смертельной и даже вызвать крах партии и государства”.*

Он добавил, что перед Китаем стоят беспрецедентные возможности и вызовы, и страна должна *“ставить себе высокую планку и усерднее работать”.*

Речь Ху Цзиньтао дала старт мероприятию, которое продлится неделю и в результате которого будет объявлено о смене руководства страны. Как ожидается, на смену действующему генеральному секретарю компартии и председателю КНР **Ху Цзиньтао** придет его заместитель **Си Цзиньпин.**

Нынешнее руководство КНР во главе с председателем Госсовета **Ху Цзиньтао** находится у власти с 2002 года и известно как *“четвертое поколение”,* правящее страной после прихода к власти коммунистов в 1949 году. В Китае строго выдерживаются возрастные ограничения при занятии партийных и государственных постов, поэтому нынешнему руководству придется уйти. Из девяти членов всемогущего Постоянного комитета политбюро КПК семеро достигли пенсионного возраста.

Член Постоянного комитета политбюро Си Цзиньпин постепенно получит все полномочия нынешнего главы государства Ху Цзиньтао. Он никогда никуда не избирался. Мы не знаем, что он думает о глобальной экономике и глобальном потеплении. А многие китайцы лучше знают в лицо его жену-певицу.

И при всем этом Си Цзиньпин станет в возрасте 59 лет самым могущественным человеком в Китае на будущее десятилетие.

По меньшей мере четыре человека, включая трех юных монахов, устроили самосожжение в знак протеста против правления китайских властей в Тибете в преддверии 18-го съезда Коммунистической партии КНР, сообщают правозащитники.

**Андрей КРАВЧУК.**

**У СУСЕДЗЯЎ**

# Латгалія — усходнія вароты ЕС...



*“А для Беларусі— заходнія ў Латвію і ЕС, і яны для вас адчынены”, — казала мне падчас інтэрв’ю кіраўнік аддзела эканомікі і інвестыцый Дэпартамента развіцця Даўгаўпілскай думы (гарадского самакіравання) Вольга Талмачова.*

— Некаторыя лічаць, — працягвала яна, — што Даўгаўпілс, як і ўся Латгалія, — адсталы рэгіён Латвіі, эканамічна дэпрэсіўны. Да нейкага моманту ўсё так і выглядала, але зараз сітуацыя карэнным чынам мяняецца. Можа, не так імкліва, як хацелася б, але на змену малаэфектыўнай прамысловасці савецкай эпохі прыходзяць новыя, канкурэнтаздольныя прадпрыемствы. Не гіганты, як раней, затое інавацыйныя, тэхналагічна сучасныя, з канкурэнтаздольнай прадукцыяй і адпаведнымі паслугамі. Трэнд некалі цалкам прамысловага Даўгаўпілса мяняецца на вачах: цяпер самакіраванне галоўнымі прыярытэтамі ў развіцці горада лічыць прадпрымальніцтва і турызм. Мадэрнізуецца ўся інфраструктура, прыцягваюцца сродкі з фондаў ЕС, створаны прамысловыя зоны з усімі камунікацыямі, дзе можна размясціць розныя вытворчасці...

**— У канцы верасня ў Даўгаўпілсе прайшоў ІІ Міжнародны інвестыцыйны форум, на якім прысутнічала больш за 500 удзельнікаў з 13 краін. Ці пачэрпнута гарадскімі ўладамі нешта карыснае? І што ў сухім астатку?..**

— Гэта ўжо другі форум (летась быў першы), на якім прадпрымальнікі, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных і муніцыпальных структур абменьваліся ідэямі, прапановамі і дыскутавалі па пытаннях развіцця прадпрымальніцкага асяроддзя — і не толькі ў Даўгаўпілсе, але ва ўсім рэгіёне. Форум так і назвалі: Латгалія — усходнія вароты ЕС. Дык вось, другі форум, па-першае, стаў больш прадстаўнічым; па-другое, больш выніковым. Ну лічыце самі: калі летась (па выніках І інвестфоруму) сталі рэальнасцю праекты стварэння ў Даўгаўпілсе сямі новых вытворчасцяў, дзе будзе занята не менш за 1000 чалавек, то другі форум — яшчэ больш рэалістычны і шматабяцаючы. Канечне, гаворка ідзе пра новыя прадпрыемствы і новыя рабочыя месцы... Міністр рэгіянальнага развіцця і асяроддзя Эдмунд Спруджс, напрыклад, асаблівую ўвагу сфакусіраваў на партнёрскіх стасунках дзяржавы і прыватнага бізнесу. Латгалія ў гэтым сэнсе з’яўляецца месцам вялікіх магчымасцяў, казаў ён, і якраз нашаму рэгіёну з боку Міністэрства рэгіянальнага развіцця будзе нададзена асаблівая ўвага. Ва ўсялякім разе, па меркаванні спадара Спруджса, план развіцця Латгаліі і работа па прыцягненні інвестыцый хутка дазволіць гаварыць пра Латгалію як пра моцны рэгіён.


Латгальскія прыгажуні.

**— Спадарыня Вольга, наколькі інтэнсіўныя эканамічныя стасункі паміж Латгаліяй, горадам Даўгаўпілсам у прыватнасці, і Рэспублікай Беларусь?**

— Даўгаўпілс — памежны горад, на развіццё эканомікі, культуры якога здаўна рабілі ўплыў суседнія дзяржавы. Выгаднае геаграфічнае становішча дазволіла гораду за апошняе стагоддзе вырасці ў значны транспартны вузел і прамысловы цэнтр Усходняй Латвіі. Вы ж ведаеце: да мяжы з вашай краінай — 33 кіламетры, да Літвы — 25, да Масквы — 845... Чыгунка звязвае Даўгаўпілс з Вільнюсам, Масквой, Санкт-Пецярбургам, Варшавай, Сафіяй, Львовам... Добра развіты і аўтадарожныя зносіны з суседнімі краінамі, ажыццяўляюцца грузаперавозкі ва ўсіх напрамках. Унікальная памежная сітуацыя робіць горад яшчэ больш прыцягальным для інвестараў з усяго свету. Натуральна, Беларусь у двайным выгадным становішчы, бо і сама — транзітная дзяржава. Скажу болей, Латгалія — важны рэгіён для развіцця міжнароднага транзіту паміж краінамі ЕС і Еўразійскім Саюзам. Ваша краіна — фарпост эканамічнай еўразійскай супольнасці. Калі так блізка (геаграфічна) ад Еўрапейскага Саюза, то не скарыстацца магчымасцямі, якія падараваў усім нам лёс, было б проста неабачліва і неразумна. Падобна на тое, што нашы бізнесмены і дзяржаўныя функцыянеры гэта выдатна разумеюць. Апошнім часам прыкметна ўзрос аб’ём грузаперавозак у абодвух напрамках: толькі за апошні год з Беларусі праз Латгалію было перавезена больш за 9,4 млн тон розных грузаў. Даволі актыўна развіваецца супрацоўніцтва паміж прадпрымальнікамі абедзвюх краін. У Латвіі, наколькі я ведаю, працуе 756 прадпрыемстваў з сумесным беларуска-латвійскім капіталам, у Беларусі такіх 416. За мінулы год тавараабарот паміж нашымі краінамі склаў 3 мільярды 300 мільёнаў долараў. А ў гэтым годзе, цалкам верагодна, гэтая лічба перасягне за 4 мільярды. Можа падацца, што ўсё тут гладка, але гэта не так, бо яшчэ шмат праблем у сферы таго ж транзіту, лагістыкі, інфармаванасці бізнесэліт пра юрыдычныя, фінансава-крэдытныя ды іншыя магчымасці, якія існуюць па абодва бакі мяжы. Значыцца, у гэтым напрамку і трэба ўсім працаваць: пад ляжачы камень вада не цячэ...

**— Якія праблемы турбуюць гарадскія ўлады найбольш, калі размова заходзіць пра развіццё прыватнага бізнесу, інфраструктуры і паляпшэнне дабрабыту гараджан?..**

— Шмат якія... Напрыклад, пытанне недахопу абаротных сродкаў для бізнесу. У Латгаліі, як і ва ўсёй Латвіі, асноўнай крыніцай для іх атрымання з’яўляецца банкаўскае крэдытаванне. Але здараецца так, што іншым разам працэнты па крэдыце перакрываюць атрыманы прыбытак. Яшчэ адна праблема — недахоп кваліфікаваных кадраў; наступная — недасканалае заканадаўства, якое забараняе самакіраванням на законных падставах і на пэўных умовах аказваць непасрэдную падтрымку бізнесменам. Некаторыя дзелавыя людзі скардзяцца на саму працэдуру атрымання дзяржаўнай падтрымкі для развіцця прыватнай справы. Але так бывае у шмат якіх краінах, якія толькі сталі на шлях дэмакратыі і рынкавых адносін. Адно несумненна: неабходна больш шчыльнае супрацоўніцтва прыватнага бізнесу і дзяржавы як інвестара. Над тым і працуем... Ва ўсялякім разе самакіраванне Даўгаўпілса гатова падтрымліваць талковыя ініцыятывы кожнага бізнесмена і аказваць яму максімальнае садзейнічанне, але пры гэтым варта памятаць: гарадскі бюджэт — не бязмежны, а фонды Еўрапейскага Саюза — не бяздонныя... І потым, якія б інвестпраекты ні захвочвала і ні падтрымлівала гарадское самакіраванне, сацыяльныя праграмы застаюцца прыярытэтнымі. Калі неабгрунтавана ўкладваць бюджэтныя сродкі ў малаэфектыўныя праекты, то гарадскі бюджэт — ён у нас крыху больш за 200 млн долараў у эквіваленце — папросту не вытрымае. Не забывайце, што ў горадзе шмат пенсіянераў, маламаёмасных грамадзян, шматдзетных сямей. Зразумела, такім выплачваюцца дапамогі. Ільготы і фінансавая падтрымка хоць і адрасныя, але вымагаюць немалых фінансавых выдаткаў. Напрыклад, тыя ж пенсіянеры маюць 50-працэнтную скідку на праезд у гарадскім транспарце. Увогуле, што тычыцца пенсіянераў... Для іх прадугледжана 28 розных ільгот — у залежнасці ад дастатку сям’і, ад узросту, ад фізічнага стану... Што ж да маладых і здаровых людзей, то іх дабрабыт залежыць у пэўнай ступені ад іх саміх. Каб чагосьці дабіцца ў жыцці, трэба шмат працаваць і вучыцца, трэба мець адпаведныя амбіцыі. Іншага не дадзена...

**— Еўрасаюз, у які ўступіла Латвія, расчыніў перад латгальцамі ўсе дзверы... І, наколькі мне вядома, многія тым скарысталіся. Па некаторых звестках, з Латвіі з’ехала на заробкі да паўмільёна чалавек...**

— Сапраўды, масавы адток моладзі на Захад меў месца. Добра тое ці дрэнна, і з чым гэта звязана? Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. А калі сур’ёзна, то палка, як кажуць, з двума канцамі... Канечне, кепска, што маладыя людзі не знайшлі сабе прымянення на радзіме — нездавальняючыя заробкі, а то і ўвогуле не знайшлося работы па спецыяльнасці. А з іншага пункту гледжання: многія з іх абавязкова вернуцца дадому — але больш кваліфікаванымі і, можа, з немалымі сумамі грошай у кішэні... Хтосьці адкрые сваю справу і дасць работу іншым, хтосьці зоймецца навукай, яшчэ нечым. У любым выпадку — гэта на карысць асобе, а прыйдзе час — і малады чалавек інвестуе свае новыя веды, набыты вопыт і капітал у сваю ж краіну. Далей: свабода перамяшчэння — неад’емнае права кожнага чалавека, гэтай свабоды чакала не адно пакаленне нашых грамадзян... Не дзіва, што працоўных месцаў не хапае на ўсіх, што заробкі пакуль не такія, як у Вялікабрытаніі і Германіі... Але трэба разумець: на сучасным асфальтавым заводзе, які зусім нядаўна быў адкрыты ў Даўгаўпілсе і які выдае за гадзіну 160 тон асфальту, працуе ўсяго шэсць чалавек, а не сотня, як у савецкія часы. Чаму? Ды ўсё проста: завод аснашчаны самым сучасным нямецкім абсталяваннем... Дарэчы, завод кампаніі Binders — не адзінае асфальтабетоннае прадпрыемства ў горадзе. Поруч канкуруе завод фірмы Latgales celdaris — даччына прадпрыемства літоўскай кампаніі Panevezio keliai, якая лічыцца адным з буйнейшых дарожна-будаўнічых прадпрыемстваў у Літве. Што ў выніку? Канкурэнцыя! А яна вымагае не толькі высокай якасці работы, але і мінімальнай колькасці работнікаў...

**— Спадарыня Вольга, калі ўжо гаворка зайшла пра канкурэнцыю і інвестпраекты, то колькі слоў і пра заробкі сярэднестатыстычнага латгальца... Па дарозе ў мэрыю таксіст-прыватнік Марк распавёў мне, што зарабляе ў сярэднім 350 латаў за месяц - гэта прыкладна 700 долараў. А як іншыя — напрыклад, вы і вашы калегі?..**

— Тут ніякага сакрэту, зірніце на афіцыйную дыяграму, і ўсё стане зразумелым: гэтулькі, як таксіст, прыблізна зарабляем і мы... Канечне, хацелася б болей, але пакуль так. Ведаю, што многія гараджане скардзяцца на беспрацоўе, на высокія тарыфы па аплаце камунальных паслуг, на невысокія зарплаты... Апраўданне хіба адно: жыць трэба па сродках, а жыць добра можна толькі на сумленна зробленыя грошы. Мушу сказаць і вось што: у многіх латгальцаў знікла ўтрыманская псіхалогія старых часоў, да людзей прыйшла здаровая матывацыя, скіраваная на прадпрымальніцтва, кар’ерны рост, павышэнне кваліфікацыі. І гэта абсалютна правільны трэнд, бо сам чалавек у адказе за свой лёс. Толькі адзін маленькі прыклад... Сям’я Ілзе і Оскара Межніексаў перасялілася з Рыгі ў Латгалію, каб пачаць жыццё... з нуля. Учарашнія гараджане вырашылі заняцца экалагічна чыстай сельскай гаспадаркай. Напісалі праект і падалі ў адзін з замежных фондаў. З сотні праектаў заходнія інвестары выбралі дзясятак самых перспектыўных, сярод іх і сям’я Межніексаў. Цяпер Оскар, Ілзе і іх дзеці вырошчваюць не толькі экалагічна чыстую гародніну, якую ахвотна купляюць рэстараны, але і разводзяць авечак. Мяса, выробленыя скуры не залежваюцца — усё праглынае рынак... Нарэшце, самае галоўнае — саламяны дом, пабудаваны сваімі рукамі і па найсучаснейшай экатэхналогіі. Не дзіва, што на хутар Межніексаў прыязджаюць многія, каб пераняць вопыт — нават англічане і аўстралійцы, не кажучы пра суайчыннікаў. Ілзе кажа, што дэпрэсіўная не Латгалія, дэпрэсія — у галовах людзей... Калі чалавек хоча, ён усяго даможацца — патрэбны толькі воля і імкненне.

**— Не магу не запытацца пра лёс яшчэ аднаго незвычайнага праекта, які два гады таму бралася рэалізаваць латвійская кампанія ProLat сумесна з партнёрамі з ФРГ. Маю на ўвазе сонечную электрастанцыю — адзіную ў краінах Балтыі... Ці атрымалася?**

— Не, праект, што называецца, замарожаны, хаця мясцовыя камерсанты былі ўпэўнены, што ўсё атрымаецца. Яны вырашылі было пераняць вопыт нямецкай фірмы, якая ў 2008 годзе пабудавала падобную станцыю ў Саксоніі і паспяхова яе эксплуатуе. У рэалізацыю праекта планавалася ўкласці 16,5 млн еўра — з прыцягненнем часткова фінансавання з нямецкага боку. Новая электрастанцыя павінна была выдаваць 4,6 МВт электраэнергіі, а гэта складае прыкладна адну пятую ўсяго гарадскога спажывання. Аднак фінансавыя цяжкасці перапынілі работу, а нямецкі бок не адважыўся браць на сябе ўсе фінансавыя выдаткі. Словам, усё адкладзена да лепшых часоў... Затое ў планах горада — пабудаваць сучасны аэрапорт на месцы былой ваеннай авіябазы. Спадзяёмся, на гэты раз замежныя інвестары не адступяцца — пакуль яны пацвярджаюць свой інтарэс і свае намеры. Горад таксама мае цвёрды намер рэалізаваць задуманае: Даўгаўпілс спрадвеку быў на перасячэнні наземных і водных шляхоў, а стане яшчэ і паветранай гаванню для людзей — як з Захаду, так і з Усходу... Усё мяняецца да лепшага, калі ёсць воля і імкненне зрабіць жыццё лепшым.

**— Дзякуй за інтэрв’ю, спадарыня Вольга! Хай у вас усё атрымаецца!**

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Мінск—Даўгаўпілс—Мінск.*



Сярэдняя зарплата па рэгіёнах Латвіі (у латах).



**Так размяркоўваецца бюджэт Даўгаўпілса.**

